# Тыднёвік Магілёўскі




№ 21 (136) 23 — 29 лістапада 2001 г. Кошт 80 руб.



## Заклік у абарону вольнага слова і праўды





Фота IREX

*Беларуская асацыяцыя журналістаў прыняла адмысловую заяву з нагоды судовага спынення дзейнасьці гарадзенскай газэты "Пагоня" і ліквідацыі рэдакцыі выданьня.*

*"Гарадзенская пракуратура сьцьвярджае, што падставай для закрыцьця газэты сталіся неаднаразовыя парушэньні ёй заканадаўства аб друку, – гаворыцца ў заяве БАЖ. – Але ў рэчаіснасьці на момант звароту пракуратуры ў суд рэдакцыі было вынесенае толькі адно афіцыйнае папярэджаньне (на працягу года). Калі ж падчас судовага працэсу высьветлілася, што гэтага недастаткова для закрыцьця незалежнага выданьня, пракуратура вынесла газэце другое папярэджаньне – прычым за публікацыю тых жа самых матэрыялаў...".*

*БАЖ нагадвае аб тым, што закрыцьцё незалежнага выданьня праз такі спосаб адбылося ўпершыню пасьля лістападаўскай расправы 1997-га году над газэтай "Свабода". БАЖ зьвязвае гэта з абяцаньнем Лукашэнкі "разабрацца" зь незалежнай прэсай пасьля выбараў. У гэтым жа шэрагу – працяг расьсьледаваньня крымінальнай справы, распачатай па факце публікацыі перадвыбарчых матэрыялаў у газэце "Рабочы", узнаўленьне крымінальнай справы супраць журналістаў крычаўскай газэты "Вольны горад" і адмова Вышэйшага гаспадарчага суда разглядаць пазоў газэты "Брестский курьер" да Міністэрства друку аб прызнаньні несапраўдным вынесенага на яе адрас папярэджаньня.*

*БАЖ паведамляе пра сваё права зьвярнуцца ў міжнародныя арганізацыі й структуры па абарону Свабоды Слова ў краіне, на якую ўлады пасягаюць усё больш шырока і агрэсыўна.*

***Уласная інфармацыя***

## Як па загаду...

***Пракуратура Ленінскага раёна Менску ўзбудзіла крымінальную справу супраць галоўнага рэдактара газэты "Народная Воля" Іосіфа Сярэдзіча.***

*Падставай сталіся верасьнёўскія публікацыі ў газэце – Заява лідэраў палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў Беларусі адносна пэрспэктываў выбарчых парушэньняў і артыкул прафэсара, сябра-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Івана Нікітчанкі "Белыя плямы Беларусі й Расеі. Хто ж захоча мець справу з такім несумленным партнэрам?".*

*Непасрэдна ў пракуратуру з заявай аб прыцягненьні І.Сярэдзіча да адказнасьці зьвярнуўся старшыня менскага аблвыканкаму М.Дамашкевіч. Чыноўнік палічыў паклёпам зьвесткі, што былі прыведзеныя ў Заяве лідэраў палітычных партыяў. (Яны сьцьвярджалі, у прыватнасьці, што сп.Дамашкевіч інструктаваў арганізатараў выбараў аб тым, як фальшаваць вынікі галасаваньня).*

*Назіральнікі зьвяртаюць увагу на адначасовасьць перасьледу папулярных недзяржаўных выданьняў – гарадзенскай "Пагоні" і сталічнай "Народнай Волі".*

*Любоў ЛУНЁВА*

## Незабыўныя даты, вялікія людзі...

***Гэты тыдзень распачаўся з 71-годзьдзя Ўладзімера Караткевіча, які ўважаецца за аднаго з найважнейшых пісьменьнікаў нацыі. Ягоныя творы й жыцьцё ня толькі даводзяць той факт, што нашая нацыя жывое, але й што яна здольная нараджаць Творцаў сусьветнага маштабу.***

У аўторак адзначаліся ўгодкі Слуцкага збройнага чыну – геральчнага змаганьня беларускага войска супраць бальшавіцкай навалы ў 1920-ым годзе.

Таксама на лістапад прыпадаюць угодкі нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1830-31 гадоў. У зьвязку зь ім мы ўзгадваем такія сьветлыя імёны, як Эмілія Плятэр, Аляксандар Рыпінскі... Дарэчы, менавіта пасьля паразы таго паўстаньня за волю ў Магілёве было скасаванае дзеяньне Статуту Вялікага Княства Літоўскага.

Будзьма памятаць нашую гісторыю, ганарыцца ёю й старацца зрабіць сучасную Беларусь як мага больш беларускай, прыстойнай і вытрывалай.

*"ТМ"*

## Зайшлі зь іншага боку

***Дырэктар шклоўскай раённай жыльлёва-камунальнай гаспадаркі Рыгор Костусеў, які здаўна зьяўляецца старшынём раённай арганізацыі Беларускага Народнага Фронту, днямі стаў безпрацоўным.***

Папрокі ў бок спадара Костусева гучалі даўно, яшчэ з 1995-га году. Не спадабалася мясцовай уладзе, што тады яго абралі старшынём Фронтаўскай арганізацыі, а ў наступным годзе ён увайшоў у склад Сойму БНФ. Ягоная актыўная палітычная дзейнасьць, між тым, на працу калектыву ЖКГ адмоўна не ўплывала. Наадварот: летась у спаборніцтве па эксплюатацыі жыльля жыльлёва-камунальная гаспадарка раёну заняла першае месца ў вобласьці і другое – у краіне. Тым ня менш, раённая "вэртыкаль" неаднаразова спрабавала звольніць Рыгора Костусева з працы. Але цягам доўгага часу гэта ў яе ніяк не атрымлівалася, тым больш што дырэктар ЖКГ катэгарычна адмаўляўся падаваць заяву "па асабістым жаданьні".

Ціск на яго асабліва ўзмацніўся летам, калі спадар Р.Костусеў узначаліў раённую ініцыятыўную групу кандыдата на прэзыдэнта Сямёна Домаша. І вось нядаўна чынавенства прыдумала камбінацыю па рэарганізацыі камунальнай службы. Рамонтна-будаўнічую ўправу, якая падпарадкоўвалася вобласьці, перадалі раёну, аб'яднаўшы яе з жыльлёва-камунальнай гаспадаркай. У выніку ЖКГ набыла новы статус, а таксама новага дырэктара – начальніка рамонтнай управы. Пры тым, што ў падначаленьні Костусева было звыш 500 чалавек, а ва ўправе працавала толькі 46.

Незадаволеныя супрацоўнікі жыльлёва-камунальнай гаспадаркі, якія паважаюць Костусева за прафэсіяналізм і добрае стаўленьне да людзей, накіравалі ліст пратэсту ў райвыканкам. Аднак ніхто ня верыць, што там на яго зрэагуюць. Тым больш, што гэтым разам Рыгор Костусеў падпісаў заяву пра "асабістае жаданьне", паколькі адчуў, што можа быць яшчэ горш – на яго пачалі зьбіраць "кампрамат" па ўсіх напрамках. Працаваць у гэтых варунках стала папросту немагчыма.

**Алесь СЕРДЗЮКОЎ**

## Рэпрэсавалі памяць

***Шклоўскія ўлады забаранілі адзначаць стагодзьдзе пісьменьніка Міхася Зарэцкага.***

Свой псэўданім – Зарэцкі – славуты беларускі літаратар, сапраўднае імя якога Міхаіл Касьянаў, абраў праз вёску Зарэчча на Шклоўшчыне, куды быў закінуты воляю лёсу (ён паходзіў з Расеі). Каб ушанаваць памяць творцы, старшыня мясцовай суполкі Таварыства беларускай мовы Аляксандар Грудзіна яшчэ месяц таму зьвярнуўся ў раённую бібліятэку з просьбай правесьці адмысловую супольную імпрэзу. Тады кіраўніцтва бібліятэкі адказала згодай. Аднак праз пэўны час старшыня аб'яднаных бібліятэкаў раёну Валянціна Шаўкавая адмовілася садзейнічаць правядзеньню сьвяточнага мерапрыемства.

Як паведаміў незалежны шклоўскі журналіст Аляксандар Шчарбак, старшыня рэспубліканскага ТБМ Алег Трусаў меў намер прывезьці ў шклоўскую бібліятэку падарункі акурат да стагодзьдзя М.Зарэцкага. Але ў зьвязку з адменай імпрэзы гэтага не адбылося. А.Трусаў зьвярнуўся з просьбай на дазвол да намесьніка старшыні райвыканкаму Валерыя Гузава, аднак у адказ пачуў параду займацца мовай. Што ж да адмены імпрэзы, то сп.Гузаў патлумачыў немагчымасьць ейнага правядзеньня тым, што "тут патыхае палітыкай"...

Хутчэй за ўсё, чыноўнік меў на ўвазе тое, што Міхась Зарэцкі ў часы сталінізму быў арыштаваны, і неўзабаве расстраляны (некаторыя гісторыкі мяркуюць, што ў Курапатах). Па ім засталіся розныя творы. Скажам, "Бацькавы сын" ("Кветка пажоўклая") можна лічыць сапраўдным прыкладам сацрэалізму. А эпахальны твор "Крывічы" – гэта ўжо заслуга аўтара перад уласна Беларусьсю. Аднак, як высьветлілася, для сёньняшняй шклоўскай улады ніякія заслугі забітага пісьменьніка ўвогуле ня маюць значэньня. Стагодзьдзе Міхася Зарэцкага на ягонай другой радзіме засталося неўшанаваным.

***Алесь ДАЙНЕКА***

**P.S.** "ТМ" атрымаў паведамленьне аб тым, што старшыня шклоўскага ТБМ А.Грудзіна зьвярнуўся да мясцовых уладаў з прапановай назваць імём Міхася Зарэцкага Зарэчанскую школу.

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

**Магілёўскія дэпутаты на сваёй сэсіі абмяркавалі праблемы вытворчага спажываньня цяпла і энэргіі. Больш за ўсё націскалі на неабходнасьць эканоміі энэргарэсурсаў, як тое заўсёды гаварылася ў савецкім мінулым. Там гэта было зразумела, бо энэргія была практычна "бясплатнай". Цяпер жа справа ня ў эканоміі як такой, а ў пераходзе вытворчасьці на рынкавыя правілы. Такога пераходу ў нас, аднак, няма: перашкаджаюць сацыяльная дэмагогія, дзяржаўная ўласнасьць, адсутнасьць спажывецкіх партнэраў. Вось і талдычым звыкла пра "эканомную эканоміку". Між іншым, няма нічога больш простага, чым забясьпечыць поўную "эканомію" – узяць ды адмовіцца ад спажываньня энэргіі... Бо праблема тут зусім у іншым, пра што дэпутаты, на жаль, у чарговы раз прамаўчалі.**

**Усе, хто маюць на тое права, далі згоду на працэдуру банкруцтва ў дачыненьні да Магілёўскага машынабудаўнічага заводу. За салiднай назвай хаваецца маленькае прадпрыемства, каб не сказаць майстэрня, дзе вытворчасьць даўно ня ведае таго, што называецца рэнтабельнасьцю. Падумалася, ці варта было даводзіць заводзік да поўнага развалу вытворчасьці і разбэшчаньня людзей. На заводзе – ні грошай, ні прадукцыі, ні бугалтэрыі, ні калектыву, ні кіраўніцтва, ні гаспадара – нічога гэтага няма. Ну й навошта зьдзекваліся над ім? А таму, што й сёньня яшчэ не пазбаўленае грамадзтва ад панаваньня ў галовах і на практыцы надзеяў на пабудову "сацыяльна-рыначнай" краіны.**

**У школах вобласьці толькі двое вучняў з 100 засвойваюць матэматыку ды іншыя дакладныя дысцыпліны на "добра" і "выдатна". А навучэнцы прафэсійна-тэхнічных вучылішчаў ня ведаюць таго, што павінны былі б ведаць паводле школьнай праграмы. Больш паловы навучэнцаў, калі кіравацца строгімі правіламі, наогул нельга аднесьці да пісьменных людзей, бо на дыктоўках і падчас заняткаў па "вуснай" літаратуры яны моцна зьдзіўляюць нават да ўсяго звыклых настаўнікаў ПТУ. А ўсе сумныя рэкорды ў гэтай сфэры належаць вучням, якія па розных прычынах вымушаныя "праходзіць" прадметы разам з жыцьцём у так званых санітарна-аздараўленчых прафілякторыях. Умовы там вельмі далёкія ад патрабаваньняў часу. Адпаведна такія ж настаўнікі і выхавацелі. Такія ж растуць і грамадзяне...**

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*





## Сябе ці нас пераконваюць?..

***"Пераадоленьне ізаляцыі Беларусі магчымае толькі пры ўмове адкрытасьці беларускага грамадзтва, павазе да свабодаў і правоў чалавека", – лічыць дэпутатка Эўрапарлямэнту, віцэ-старшыня адмысловай дэпутацкай камісіі ў пытаньнях Беларусі, Украіны і Малдовы Элізабэт Шродтар.***

Як сябра зьнешнепалітычнай Палаты Эўрапарлямэнту, Э.Шродтар адказвае за пытаньні, якія тычацца краінаў-кандыдатаў на ўступленьне ў Эўразьвяз, а таксама за наладжваньне адносінаў з тымі краінамі, якія маюць агульную мяжу з краінамі Эўразьвязу.

"Я думаю, праблема ў наступным: канешне, ёсьць намер выпрацаваць нейкую новую стратэгію адносна Беларусі, – кажа Э.Шродтэр. – Таксама ёсьць рэальнасьць, што Лукашэнка будзе ў бліжэйшыя пяць год кіраваць Беларусьсю і, акрамя ўсяго, ёсьць поўнае разуменьне таго, што Беларусь знаходзіцца ў Эўропе".

Аднак, паводле эўрапейскіх палітыкаў, супрацоўніцтва з нашай краінай можа адбывацца пры ўмове адкрытасьці беларускага грамадзтва. Спадарыня Э.Шродтар пры гэтым падкрэсьлівае, што вельмі важна, каб беларуская і заходнеэўрапейская грамадзкасьці мелі дакладную інфармацыю аб тым, што супрацоўніцтва скіраванае на карысьць дэмакратыі. "Таму пытаньне правоў чалавека ў Беларусі і пытаньне незалежнасьці прэсы адыгрываюць зараз галоўную ролю для эўрапейскіх палітыкаў", – заявіла спн.Шродтэр. Паводле ейных словаў, гэтым пытаньням эўрапейскія дэпутаты й зьбіраюцца надаць найвялікшую ўвагу ў самы бліжэйшы час.

***Алена ПАНКРАТАВА***

**БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ**

## Апошняя ноч беларускай дэмакратыі

***Сябра першага складу беларускага Канстытуцыйнага суду распавёў у артыкуле, які падаем ніжэй, пра падзею, што адбылася ў ноч на 22-га лістапада 1996-га году. Гэтая горкая падзея справядліва ўважаецца за адну з галоўных у найноўшай беларускай гісторыі. Прапанаваным артыкулам "ТМ" адзначае 5-годзьдзе сыходу краіны з дэмакратычнага цывілізаванага шляху.***

Раніцай 22-га лістапада 1996г. старшыня Канстытуцыйнага суду Рэспублікі Беларусі В.Ціхіня ў тэрміновым парадку запрасіў судзьдзяў на экстранны сход. На ім ён пазнаёміў нас з дакумэнтам, які быў падпісаны напярэдадні ўначы. Назва дакумэнту была "Пагадненьне аб грамадзка-палітычнай сытуацыі й аб канстытуцыйнай рэформе ў Рэспубліцы Беларусі". Пачынаўся дакумэнт з наступных словаў: "Мы, прэзыдэнт Рэспублікі Беларусі Лукашэнка А.Р. і старшыня Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі Шарэцкі С.Г., сыходзячы з інтарэсаў беларускага народу і ў мэтах забесьпячэньня ў рэспубліцы грамадзянскага спакою й стабільнасьці, пагадзіліся...".

Нагадаю, што ў начной сустрэчы, акрамя Лукашэнкі й Шарэцкага, бралі ўдзел Чарнамырдзін, Селязьнёў і Строеў – вышэйшыя пасадавыя асобы суседняй дзяржавы – Расейскай Фэдэрацыі. Больш на сустрэчу не пусьцілі нікога, нават віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Г.Карпенка ня здолеў прайсьці праз ахову. Што ж было вырашана ўначы, на чым пагадзіліся ўдзельнікі перамоваў?

Першым пунктам дамовы Лукашэнка адмяняў два свае ўказы: ад 5-га і 7-га лістапада 1996г. Указ №455 устанаўліваў, што зьмены й дапаўненьні могуць быць унесеныя ў Канстытуцыю праз абавязковы рэфэрэндум, і яны набудуць моц у тым выпадку, калі за іх прагаласуе большасьць грамадзянаў, унесеных у сьпісы для галасаваньня. Атрымлівалася, што прэзыдэнцкі ўказ дапаўняў Канстытуцыю, у якой падобнай нормы не было, іншымі словамі, прэзыдэнт прыўласьціў функцыі заканадаўчай улады. Другі ўказ, які адмяняў Лукашэнка, меў нумар 459. Паводле яго скасоўвалася выснова Канстытуцыйнага суду ад 4-га лістапада, у адпаведнасьці зь якой вынікі галасаваньня па пытаньні ўнясеньня паправак у Канстытуцыю маглі мець выключна рэкамэндацыйны характар. Тым жа ўказам Лукашэнка фактычна абвяшчаў у краіне безпасярэднае прэзыдэнцкае кіраваньне, бо ў ім было запісана наступнае: "дзейнасьць дзяржаўных органаў, ... якая перашкаджае правядзеньню ў Рэспубліцы Беларусі рэспубліканскага рэфэрэндуму 24 лістапада 1996 года, падлягае спыненьню, а вінаватыя ў гэтым асобы прыцягваюцца да адказнасьці...".

І вось гэтыя два, мякка кажучы, неканстытуцыйныя ўказы сталіся аб'ектам гандлю падчас сустрэчы на вышэйшым узроўні! Пасьля іхняй адмены было абяцана спыніць справу аб імпічмэнце, зрабіць выгляд, быццам зусім не было з боку Лукашэнкі іншых грубых парушэньняў законаў і Канстытуцыі.

Другі пункт дамовы прадугледжваў, што Вярхоўны Савет у асобе ягонага старшыні забярэ з Канстытуцыйнага суду дэпутацкія прапановы аб тым, каб Суд даў заключэньне пра парушэньне прэзыдэнтам Канстытуцыі. А КС у адказ на гэта спыніць 22-га лістапада справу аб імпічмэнце. Пад гэтым абавязацельствам падпісаўся В.Ціхіня.

На такіх умовах бакі пагадзіліся на правядзеньне рэфэрэндуму, вынікі якога ў частцы ўнясеньня зьменаў у Канстытуцыю павінны былі мець рэкамэндацыйны характар. Пасьля рэфэрэндуму прапаноўвалася сфармаваць Канстытуцыйны сход, які б ачоліў прэзыдэнт, а сябрамі яго сталі б 50 дэпутатаў ВС і 50 прадстаўнікоў Лукашэнкі. Гэты Сход павінен быў бы на працягу трох месяцаў прыняць новую Канстытуцыю, абапіраючыся на тэкст паправак і зьменаў, якія зьбяруць большасьць на рэфэрэндуме. Таксама Лукашэнка з Шарэцкім узялі на сябе абавязкі не прадпрымаць ніякіх дзеяньняў, скіраваных на датэрміновае спыненьне дзейнасьці адзін аднаго (дакладней – прэзыдэнта і Вярхоўнага Савету).

Падпісанае пагадненьне было парушанае ўжо наступным днём. Вярхоўны Савет ня здолеў яго "ратыфікаваць", бо дэпутаты, за якімі стаяў Лукашэнка, папросту адмовіліся ад галасаваньня. Аднак Лукашэнка абвінаваціў увесь ВС (як перамоўнага партнэра) у зламаньні пагадненьня й... вярнуўся да свайго ранейшага палітычнага курсу.

Што ж да судзьдзяў Канстытуцыйнага суду, то яны й не зьбіраліся прызнаваць "начное пагадненьне" і былі гатовыя, нягледзячы на ўгаворы Ціхіні, разглядаць справу аб імпічмэнце. Але праз фармальнасьці разгляд перанесьлі на аўторак, 26-га лістапада. А раніцай таго дня ўжо былі хуценька агалошаныя вынікі рэфэрэндуму, хоць паводле ўказу трэба было іх агалосіць толькі праз 10 дзён...

Такім чынам, "начное пагадненьне" аказалася фарсам. Відавочна, што Лукашэнка меў на мэце выйграць трохі часу, каб з дапамогаю высокапастаўленых расейскіх таварышаў утрымаць "трон". У выніку Вярхоўны Савет быў адразу ж распушчаны, а ў хуткім часе спыніў сваё існаваньне й Канстытуцыйны суд.

Беларусь пачала жыць паводле іншай Канстытуцыі...

***Міхаіл ПАСТУХОЎ,***
***судзьдзя Канстытуцыйнага суду РБ з красавіка 1994-га па студзень1997-га***

Фота IREX

# Салідарнасьць працай вымяраецца

***Абмеркаваньне ролі прэсы ў сучасным грамадзтве – такой была тэма сэмінара, што адбыўся напрыканцы мінулага тыдня ў Магілёве пад эгідай Фонда Ф.Эбэрта, Беларускай асацыяцыі журналістаў і "Тыднёвіка".***



Адбылася вострая дыскусія, у якой удзельнічалі больш за 20 калегаў зь недзяржаўных выданьняў абласнога цэнтру, Бабруйску, Асіповічаў і Горак. Сэмінар, які вялі кіраўнік Цэнтру абароны СМІ пры БАЖ М.Пастухоў, юрыст А.Бастунец і намесьнік рэдактара прафэсійнага часопісу для журналістаў (адзінага, дарэчы, у краіне) "Абажур" Ю.Тапарашаў, быў пабудаваны на аналізе працы недзяржаўных СМІ ў часе верасьнёўскіх выбараў і на абмеркаваньні рэальных прававых сытуацыяў, якія ўзьнікаюць для рэдакцыяў і журналістаў у выніку іх крытычных публікацыяў, асабліва палітычнага характару.

Каб ня ўзбройваць ворагаў вольнага слова (якіх у нашай краіне хапае) дадатковай зброяй супраць недзяржаўных выданьняў, мы ня будзем спыняцца на дэталях абмеркаваньня тэмы "прававых наступстваў і абароны ад іх". Браліся пад увагу выпадкі, калі ўлада перасьледуе рэдакцыі й асобных журналістаў у судовым парадку. Зазначым толькі, што шэраг прыкладаў такога перасьледу, які быў агучаны на сэмінары, сьведчыў пра тое, што даволі часта можна было й пазьбегчы непрыемных наступстваў за кошт прыцішаньня журналісцкіх эмоцыяў (моц слова, як вядома, не ў ягонай гучнасьці, а ў праўдзе). Аднак, як выявілася цягам абмеркаваньня праблемы, журналісты, на жаль, нярэдка ідуць шляхам саступак у сваёй пазыцыі, наперад ведаючы, што беларускі закон аб друку, многія іншыя заканадаўчыя акты й самая юрыдычная практыка – як правіла, на баку ўладаў і тых, хто дэманструе ёй сваю адданасьць.

Яшчэ больш трывожнае становішча можа ўсталявацца зь вясны наступнага году, калі дэпутаты "нацыянальнага сходу" мяркуюць прыняць прапанаваныя Міністэрствам па друку "дапаўненьні і зьмяненьні" у адпаведны закон. "ТМ" ужо паведамляў пра адмоўнае і крытычнае Экспэртнае заключэньне БАЖ аб гэтых папраўках, падтрыманае эўрапейскімі і расейскімі дэмакратычнымі калегамі. Нязгоду з "дапаўненьнямі" выказалі й удзельнікі сэмінара.

Таксама аднадушна яны падтрымалі гарадзенскую "Пагоню", накіраваўшы на яе адрас і ў адпаведныя дзяржаўныя ўстановы Заяву сваёй салідарнасьці з рэдакцыяй. Пры гэтым мясцовыя журналісты выказалі гатовасьць да прафэсійнай салідарнасьці праз сваю непасрэдную працу і клопат аб пашырэньні шэрагаў Беларускай асацыяцыі журналістаў.

***Уласная інфармацыя***
***Фота Д.Новікава***

# Усё менш у краіне тутэйшых

У нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы забаранілі спэктакаль паводле знакамітай купалавай трагікамэдыі "Тутэйшыя".

Паводле афіцыйнай вэрсіі, прычынай нібыта стаўся крытычны стан дэкарацыяў. Аднак большасьць камэнтатараў і самі акторы тлумачаць гэта выключна палітычнымі прычынамі. Нязьменны выканаўца ролі Мікіты Зносака актор Віктар Манаеў лічыць, што тэатральных падставаў для адмены не было. "Купала не пажаданы ў тэатры імя Купалы", – горка зазначыў ён.

Гэта ўжо ня першы выпадак, калі на сцэне Купалаўскага тэатру забараняюць "Тутэйшых". У часе "перабудовы" спэктакаль у пастаноўцы Валерыя Масьлюка паказаў у Менску магілёўскі драматычны тэатар. Адразу пасьля паказу партыйныя чыноўнікі аддалі загад зьняць яго з рэпэртуару, бо служаліся ягонай "нацыяналістычнасьці".

"Тутэйшыя" у пастаноўцы М.Пінігіна былі разам з "Паўлінкай" візытоўкай Купалаўскага тэатру на працягу апошніх 10-ці гадоў. Усе гэтыя гады ў фінале дзеі на тэатральнай сцэне лунаў бел-чырвона-белы сьцяг...

***Вольга РЫМАШЭЎСКАЯ***

## ПАДАРОЖНЫЯ НАТАТКІ З БАГДАНОВІЧАВА КРЫМУ

# ...Дні поўныя цеплыні і хваляваньня

***Выкладчык магілёўскага Ўнівэрсытэту, заўзяты вандроўнік і выдатны географ Ігар ШАРУХА падаў для нас цікавы артыкул пра нядаўняе Крымскае падарожжа суполкі "Чароўны ўспамін". Аднак для маленькай газэты артыкул, на жаль, атрымаўся вялікі, а для грамадзкага выданьня, якім ёсьць "ТМ", ён да таго ж і падрабязна краязнаўчы. Мы выбралі для гэтай публікацыі толькі тое, што зьвязана з Багдановічавым Крымам...***



Зараз у Крыме жыве 2,2 млн. жыхароў, у асноўным славяне і расейскамоўныя. Уласна рускія тут складаюць больш за 60%, украінцы – амаль 25%, крымскія татары – каля 10%. Беларусаў тут жыве 60 тысячаў чалавек. Значная частка этнічных беларусаў памятае пра свае карані і зьядналася беларускімі таварыствамі па ўсяму паўвостраву. Цікава, што ў Крыме ўстаноўленая (камісіяй па нацыянальнасьцях) штогадовая прэмія імя Максіма Багдановіча, якая вось ужо 10 гадоў уручаецца актывістам крымскіх беларускіх культурна-асьветніцкіх суполак.

Па дарозе да Ялты мы спыняліся ў Сэвастопалі. У гераічным горадзе нас сардэчна вітаў карэнны сэвастопалец, але ж этнічны беларус, у мінулым ваенны марак, а на сёньняшні дзень адвакат сп.Барташ. Менавіта ён узначальвае цяпер тамтэйшае Таварыства беларусаў "Пагоня" імя М.Багдановіча. Зразумела, што былы марак уладкаваў нас на два начлегі ў так званых Карнілаўскіх казармах, каля помніка легендарнаму матросу Кошку, на базе вучэбнага цэнтра ВМФ Украіны. Магілёўскія вандроўнікі ахвотна, хто служыў, успаміналі, а неслужывыя засвойвалі "службу" і ейныя парадкі: статут, дысцыпліну, распарадак, падначаленьне...

Першым аб'ектам для наведваньня ў Ялце была, вядома, магіла Максіма Багдановіча на гарадзкіх (заходніх) кладах. На разгалінаваньні шляхоў нас сустрэлі землякі Віталь Бартохаў і Неаніла Мошнікава. Разам зь імі мы й крочылі, падцягнутыя й усхваляваныя, да дарагой магілы. На сьцежцы мэталічны слуп са стрэлкай і надпісам на роднай мове "М.Багдановіч" паказаў нам дарогу. Цяжка перадаць пачуцьці, якія ахапілі, відаць, усіх вандроўнікаў. Раз-пораз чуліся ў групе ўзьнёслыя словы: "Нарэшце!", "Мы ўсё ж гэта здолелі зрабіць!", "Нават ня верыцца, мы тут, у Ялце, каля Максіма!".

На магіле Багдановіча мы правялі паўгадзінны мітынг-рэквіем. Гучалі вершы і песьні Багдановіча і пра Багдановіча. На завершаньне мітынгу мы высыпалі на магілу Паэта колькі жменяў прывезенай роднай зямелькі...

Наступным аб'ектам экскурсіі сталася вуліца М.Багдановіча (у гонар паэта некалі вуліца Крымская перайменаваная цяпер у вуліцу Максіма Багдановіча). На ёй, на доме № 2 (былы пансіён "Шалаш", па дарэвалюцыйнай Аўцкай вуліцы) усталяваная мэмарыяльная дошка ў гонар таго, што тут жыў Максім у 1909 г. На другім паверсе, дзе разьмешчаная кантора нейкай будаўнічай арганізацыі, зроблены памятны куток. Нас зьдзівіла і кранула ўбачанае падчас наведваньня гэтага кутка, аб якім ялцінскія будаўнікі не былі папярэджаныя – у кутку Багдановіча, перад партрэтам паэта стаяла вазачка са сьвежапрынесенымі жывымі кветкамі... Далей ставім сьвечкі за спачын душы паэта ў мясцовай Аляксандра-Неўскай царкве, дзе М.Багдановіч быў адпеты.



Маляўнічую, яскравую карціну жыцьця Ялты таго часу, калі тут лячыўся Максім, славесна намалявала для нас Л.Іванова, загадчыца аддзела Ялцінскага музэя.

У Алушце мясцовыя беларусы і госьці (гэта значыць мы, падарожнікі) сумесна наладзілі вечарыну памяці Максіма Багдановіча. Сцэна клюба "Золотого колоса", дзе праходзілі мэмарыяльныя падзеі, была ўпрыгожаная партрэтам Багдановіча, вянкамі з васількоў, беларускімі вышыванкамі і паясамі. Пад партрэтам разьмесьцілі скрыпку і зборнік вершаў "Вянок", а побач на стале ўзвышаўся вялізны каравай і трохтомнік песьняра. Вёў мерапрыемства апрануты ў нацыянальныя беларускія строі загадчык клюба Віталь Бартохаў. Для аповяду пра творчасьць паэта ён удала абраў форму вуснай літаратурнай газэты. Біяграфічны нарыс суправаджаўся чытаньнем вершаў Багдановіча, сьпевамі народных песьняў. Пелі песьні, выступалі зь вершамі і прозай і мы. Прыемным момантам вечарыны было наведаньне яе, з адмысловай мэтай павітаньня з намі, алушцінскімі беларусамі. Прыйшлі мясцовыя паэты, вэтэраны, нават старшыня гарвыканкаму Ў.Фралоў. А скончылася вечарына ля вогнішча ў двары, пад песьні магілёўскіх бардаў.

Далей была Феадосія. Пасьля экскурсіі па горадзе – новыя сустрэчы з прадстаўнікамі дыяспары беларусаў. Між іншым, старшынём мясцовага Таварыства беларусаў зьяўляецца генэральны дырэктар ААТ "Феодосийская табачная фабрика" (дарэчы, адзінага стабільна працуючага прадпрыемства горада), контарадмірал запасу А.Сіткоў. Вершы, песьні, кветкі, сьлёзы радасьці, беларуская мова, усьмешкі, абмен падарункамі і сувэнірамі – вось тое, што напаўняла і гэту сустрэчу, і ўсе дні нашага цудоўнага знаходжаньня ў цудоўным Крыме.

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*
*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 21. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 22.11.2001 г. а 17.05.